 


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 3 (258) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 21 СТУДЗЕНЯ 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


## НАВАГОДНІЯ ВІНШАВАННІ

З выпадку новага 1962 года атрымалі мы, як штогод, шмат віншаванняў. Прыслалі іх грамадскія арганізацыі, установы і прыватныя асобы, як з краіны так і з-за мяжы. Не маючы магчымасці паведаміць нашых чытачоў аб усіх віншаваннях, публікуем некаторыя з іх.

*

Прэзідыум Беларускага Таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі сардэчна віншуе Вас з новым годам!

Жадаем Вам вялікіх поспехаў у Вашай высакароднай працы, накіраванай на ўмацаванне дружбы і ўзаемазразумення паміж нашымі народамі, у барацьбе за мір ва ўсім свеце.

*

Дарагія Сябры!

Вітаем, горача віншуем Вас з Новым, 1962 годам!

Ад усяго сэрца жадаем Вам новых поспехаў у творчай працы, у барацьбе за сацыялізм, за мір, за дружбу паміж народамі!

Праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.

*

Сардэчна віншуем Вас з Новым годам. Жадаем здароўя і творчых поспехаў.

З добразычлівасцю — калектыў рэдакцыі «Літаратура і мастацтва».

*

Дарагія сябры! Ад шчырага сэрца віншуем Вас з Новым, 1962 годам. Жадаем новых поспехаў у Вашай высакароднай працы за мір і прагрэс, а таксама многа шчасця і радасці ўсім членам Вашай рэдакцыі.

Рэдакцыя газеты «Голас Радзімы»

*

Дарагія таварышы!

Горача віншуем вас з Новым Годам!

Жадаем новых поспехаў у працы і новых радасцей у асабістым жыцці.

Калектыў часопіса «БЕЛАРУСЬ»

*

Дарагія таварышы і сябры! З выпадку новага 1962 года горача віншуем Вас асабіста, супрацоўнікаў і чытачоў газеты. Жадаем вялікага шчасця, добрага здароўя і новых поспехаў у мірнай стваральнай працы ў імя перамогі сацыялізма ў дружалюбнай нам Польшчы, у барацьбе за мір і дружбу паміж народамі. Хай яшчэ больш умацоўваецца дружба паміж працоўнымі Гродзеншчыны і Беласточчыны.

Гродна. Калектыў рэдакцыі «Гродзенская праўда».

*

Калектыў Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Ул. І. Леніна віншуе Вас з Новым 1962 годам і жадае творчых поспехаў у працы.

*

Сяброўка «Ніва»! Віншую цябе з Новым 1962 годам! Жадаю табе ў новым годзе яшчэ лепшых поспехаў у ганаровай справе пад'ёму культурнага ўзроўню беларусаў у Польшчы.

Рады бачыць цябе на стале ў кожнага твайго суайчынніка і — далёка за межамі выдання!

Шчаслівага табе шляху! Твой першы чытач — віцэбляніп Мікола Плавінскі.

(Працяг на стар. 2)



Славутая беластоцкая Бялка, якая, як бачым на здымку, і зімою не замярзае.

Фота Г. Рагазінскі

НА ПРЫКЛАДЗЕ ГАЙНАЎШЧЫНЫ

## НАСЕННЕ НАСЕННЮ НЯРОЎНАЕ

«У надыходзячым годзе трэба абяспечыць больш спраўнае чымсьці дагэтуль выкананне задач адносна праграмы стасавання кваліфіцыраванага насення...

(З пастаноў IX Пленума ЦК ПАРП)

Шмат дарог вядзе сялян да таго, каб на іхніх палях расло штораз буйнейшае збожжа. Адной з іх з'яўляецца падбор высокаякаснага насення. Як падлічваюць спецыялісты, прымяняючы кваліфіцыраванае насенне, можна атрымаць ураджай вышэйшы на 2—4 цэнтнеры з кожнага гектара пасеваў.

Зараз усе раёны Беласточчыны маюць апрацаваны дакладны план аднаўлення сеўнага матэрыялу. Пры апрацоўцы гэтых планаў браліся пад увагу агульныя заданні бягучай пяцігодкі адносна актывізацыі сельскай гаспадаркі.

На Гайнаўшчыне паводле гэтага плана сеўны, высакаякасны матэрыял будзе аднаўляцца штогод на 1/4 плошчы збожжавых культур, а што 5 год — на 1/3 плошчы пад бульбай. Прадбачваецца, што гэтае мерапрыемства дадаткова дасць Гайнаўшчыне штогод каля 15 тон збожжа. Так справа прадстаўляецца ў планах. А як на практыцы?

Гайнаўскі сельгасаддзел, які непасрэдна кіруе гэтай справай, прыступіў да ажыццяўлення свайго плана вясною мінулага года. У час вясенняга севу рэпрадукцыйныя гаспадаркі мелі абсеяць кваліфіцыраваным насеннем: ярай пшаніцай — 10 га, ячменем — 15,5 га, аўсом — 41,9 га, бульбай — 100 га. Сеўны матэрыял абавязана была даставіць насенная цэнтраля ў Беластоку. Аднак яна не выканала сваіх заданняў. ПЗГС у Гайнаўцы не атрымаў звыш 12 тон аўса і звыш 120 тон бульбы. Гэта, зразумела, аўтаматычна перакрэсліла магчымасці паспяховай рэалізацыі плана. На тым, аднак, не канец. На Гайнаўшчыне найлепш расце бульба тыпу «Эпока», «Бомба» і

(Працяг на стар. 4)

Максім ЛУЖАНІН

* *

*

Якія ў свеце долі ёсць?
Закінь у вір турботы млосць,
З куста на куст,
Ад луст да луст
Пералятай на волі...
Чым не панадна доля?
Але такое долі
Я не вазьму ніколі.

Што ж! Доля ёсць яшчэ адна:
Марнець ад рання да цямна,
Прыдбаць дамок,
Падняць садок
Ды жыць сабе паволі...
Чым не панадна доля?
Але і гэтай долі
Я не прыму ніколі.

Дык ёсць, нарэшце, лёс такі:
Зыначваць рэчышча ракі
І весці свет
На новы след,
Вятрыстае світанне
Страчаць на рыштаваннях.

Быць можа, рынешся далоў,
Не хопіць сіл узняцца зноў,
Але ў смяротным болю
Хоць краем вока, хоць
крадком
Зірнеш ты ў будычыні дом,
Высокі, светлы, смольны...

От гэта мая доля,
От гэткай мне даволі.

## РАЙСК ПРЫГАЖЭЕ

Мінула ўжо амаль 20 год з таго часу, як гітлераўцы знішчылі вёску Райск у Бельскім павеце. Яны тады крывава распраўіліся з жыхарамі, нават вуліцу зааралі, каб не было знаць, дзе стаяла вёска.

Зараз Райск ізноў выглядае прыгожа. У вёсцы шырокая вуліца, прыгожыя дамы. У Райску ўжо мала дзе сустрэнеш саламяную страху нават у гаспадарчых будынках, не гаворачы ўжо аб жыллёвых. А вёска і далей усё разбудоўваецца. Асабліва шпарка будуюцца жыхары Райска ў апошнія гады. Толькі ў мінулым годзе ў Райску пабудавана 18 новых жыллёвых будынкаў. Большасць з іх мураваныя, з шырокімі, «венецкімі» вокнамі. А грамадзянін Ляшчынскі будуе сабе новы мураваны дом з паверхам. Гэта, калі не лічыць мясцовай школы, будзе першы павярховы дом у вёсцы.

І вонкавы выгляд вёскі прыгажэе. У мінулым годзе ў Райску пасаджана звыш 2 000 дрэвак. Таполі, акацыі і ясень будуць садзіць і сёлета. Пройдзе яшчэ некалькі год, і Райск будзе патанаць у зяляніне дрэў. Прыгожа будзе ў Райску.

(вб).

* *

*

Аб'яўлены ГП БГКТ у мінулым годзе конкурс на творчасць для дзяцей карыстаўся поспехам. Прыслана на конкурс 66 вершаў, паэму і тры апавяданні. Цяпер слова за журы конкурсу, якое (глядзі здымак) уважліва знаёміцца з прысланымі рэчамі. На здымку злева направа: Вінцук Склубоўскі, Алесь Барскі і Георгі Валкавыцкі. Аб выніках конкурсу паведамім нашых чытачоў у літаратурнай старонцы.

*

* *



 

## УСПАМІНЫ ДЗЕЯЧА ППР

# Для нас не было бязвыхаднага становішча

Пасля вызвалення тэрыторыі Бельскага павета, нашым першым заданнем было ўтварэнне народнай улады. У гэты перыяд мяне накіравалі да працы на тэрыторыю былой гміны ў Кляшчэлях, дзе я пачаў працаваць кіраўніком прапаганды ў Гміннай радзе нарадовай. У верасні 1944 года навязаў я сувязь з Павятовым камітэтам ППР у Бельску Падляшскім. Тады першым сакратаром камітэта быў тав. Васілюк, а яго намеснікам тав. Парфенюк. У хуткім часе сарганізавалі два новыя Гмінныя камітэты: у Цеханоўцу і ў Нарве. У кастрычніку 1944 года адбыўся сход Гміннага камітэта ў Кляшчэлях, у якім прыняло ўдзел 32 таварышы, пераважна старых дзеячоў КПЗБ. На гэтым сходзе мяне выбралі сакратаром Гміннага камітэта Польскай Рабочай партыі.

Галоўным заданнем было ўмацаванне народнай улады і правядзенне зямельнай рэформы. Я асабіста прымаў удзел у парцэляцыі памешчыцкага маёнтку ў Грыгараўцах. У сувязі з тым, што былі вялікія цяжкасці, трэба было многа аддаць сілы і самаахвярнасці, каб рэформа была праведзена хутка і добра, і каб зямля была аддана тым, хто яе дагэтуль не меў. Многа дапамог нам у гэтым Ваяводскі камітэт ППР, сакратаром якога была тав. Эдварда Арлоўская. У вельмі хуткім часе ў наш павет прыехала дзве брыгады рабочых з Гайнаўкі і Беластока. Яны заняліся сарганізаваннем парцэляцыйных камітэтаў, а тыя ў сваю чаргу заняліся падзелам зямлі. Беззямельныя і малазямельныя сяляне з акалічных вёсак атрымалі паведамленні аб падзеле маёнтку. Былі зроблены спіскі. Бралася тут пад увагу сямейнае і матэрыяльнае становішча — гэта вырашала, колькі каму даць зямлі. У асноўным зямлю давалася ў граніцах ад 1—5 га. Затракі атрымалі па 5 га.



Як адбываўся практычна падзел зямлі? Бралі звычайную вымераную жэрдку або шнурок і ішлі на поле з групаю людзей, мералі плошчу і адразу прызначалі каму трэба. Такая арганізацыя парцэляцыі ішла хутка і спраўна.

Аднак памешчыкі не так хутка згаджаліся аддаць свае маёнткі. Узброеныя банды неаднойчы забівалі нашых таварышаў, шмат маіх знаёмых, якія замацоўвалі народную ўладу, аддало сваё жыццё. Памятаю сёння тав. Грабажа сакратара Гміннага камітэта ППР у Цеханоўцу, якога ў 1945 годзе па-варварску забіла банда.

Ідэалагічнае і арганізацыйнае развіццё ППР ішло вельмі хутка, утвараліся новыя арганізацыі ў Клюковічах, Орлі, Гайнаўцы, Белавежы, Нараўцы, Нарве і іншых мясцовасцях былога Бельскага павета. У маі 1945 года мяне выбралі ў склад экзекутывы Павятовага камітэта ППР у Бельску Падляшскім. З таго часу мая дзейнасць ахапіла цэлы павет. Цяжка было працаваць, неаднойчы трэба было брацца за зброю.

Хаця мы мелі шырока разбудаваную сетку партыйных арганізацый на тэрыторыі Бельскага павета, аднак у самым Бельску Падляшскім нам не хапала дастатковай колькасці актывістаў. Але для пэпээраўцаў не было бязвыхаднага становішча, таму што ў нашых радах было шмат старых загартаваных камуністаў. 1945 — 47 гады былі для партыі цяжкімі і грознымі. Большасць таварышаў не ведала, што такое страх, што з ім будзе заўтра. Яны толькі патрабавалі больш зброі і ехалі змагацца з бандамі. Было і так, што мы на некалькі месяцаў трацілі частку тэрыторыі павета. А потым у барацьбе з бандамі вярталі назад.

Памятаю перыяд рэферэндум, першыя выбары ў сейм. У тым часе мы былі на столькі ўжо сільнымі, што змаглі забяспечыць усе выбарчыя пункты актывістамі і ормоўцамі ва ўсім павеце, змаглі самастойна абараніць перад бандай выбарчы пункт у Мельніку.

Трэба дадаць, што супольна са старымі камуністамі змагалася і моладзь, якая гуртавалася ў радах ЗВМ і ОРМО. Шмат маладых дзяўчат і хлопцаў аддало сваё жыццё ў гэты перыяд за ўмацаванне народнай улады.

Гонар і слава загінуўшым таварышам.

**Я. БАЗЫЛЮК**

Сёння тав. Базылюк з'яўляецца пенсіянерам, але яго гады не перашкаджаюць яму ў далейшай грамадскай працы. Тав. Базылюк выконвае абавязкі Старшыні Павятовага праўлення ТПП-Р і шмат часу аддае працы, звязанай з гэтай арганізацыяй.

## МАЛАНКАВАЯ АНКЕТА

# ГОЛАС МАЕ „ЛЯВОНІХА"

ЧЭСЛАВА СЕЛІВОНЧУК — салістка эстрады. Нарадзілася ў Беластоку. (19 год, незамужняя). Танцаваць пачала з маленства. Калі хадзіла ў дзіцячы сад, ужо там была найлепшай танцоркай. А пасля закончыла гандлёвую школу. Тады першы раз сустрэлася з беларускім калектывам песні і танца, які існуе пры ГП БГКТ. Калектыў яе захапіў, і Чэся пачала ўдзельнічаць у танцавальнай групе калектыву. У эстрадзе працуе ад верасня мінулага года.

— Мае прыключэнні за час працы ў эстрадзе? Ёсць адно такое, аб якім саромлюся гаварыць. Але паколькі яно засталося ў маёй памяці назаўсёды, дык скажу. Аднаго разу, калі танцавала «Крыжачок», у час танца зляцела мне спадніца. Мой партнёр — Янка Крупа не разгубіўся і сцягнуў мяне са сцэны, а потым папрасіў прабачэння ў публікі. Зразумела, што для людзей з гэтага прыключэння было шмат смеху, а мне хоць плач. Цяпер ужо перад кожным выступленнем спраўджаю, ці спадніца добра зашпілена.

— Намеры на будучыню? Рыхтуюся паступіць у балетную школу. У верасні буду здаваць экзамен. Ці ўдасца?

Ад шчырага сэрца **жадаем, каб удалося.**



## ФАЛЬКЛОР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# МУЖЫК НА РЫНКУ

Одного разу одын бідны господар пушоў на рынок. А колісь на рынку заўшэ стоялі перэносные карчмы і ось той бідны мужык прыстановыўся коло однэі з іх ліпшой, котора стояла коло дорогі, бачыт — кіпят у ёй чыгуны, поўны разной гожэй стравы. І такій з іх пах нысэ, шчо трудно вытрыматы, коб з боку мынуты. До смерты захотылосё мужыку зайты ў карчму, як богаты заходят і наістыся разной снэді, якіх вун у дома ў сылі і чэрэз рыдкі плут ны бачыў. Алі ж дэ там, колі ў кішэні і грошыка ныма. А ў такуй корчмы людэ платят ны грошыкамы, а сірыбром. Ныць не зробыш. Выняў мужык з торбы сухую скурку после хліба і давай еі дыржаты над густым паром, які выносыўся з чыгунуў. Дыржаў, пока скурка ны розмокла і ўся ны прошла прыятным запахом. І ось мужык выбраўся іты далей, но ны прышлося ёму пуйты. Господар карчмы ўсё тое бачыў, але моўчаў до поры до часу. А як мужык, ступыў кілька шагуў, закрычаў ёму ў догонку: — Гэй свынё! Ты куда? Наіўся і ўтёкі? Платы грошы!

— Якіе тобі грошы? — кажэ мужык. — Шчо я твэі стравы наіўся, чы што? Толькі скурку розмочыў над парой.

— А то ўсёроўно. Бэз огня ныма пары, а бэз дроў ны розвыдэш огня, а дровы я за грошы купыў.

Началась сварка. Назбыралось купа народу.

— Ну, а шчо ты зо мною зробыш, колі грошы ў мынэ ныма? — кажэ бідняк господаровы.

— Раз так, я тыбэ дэсять раз палкою удыру.

— Добра, быры свою палку. Удырыш дэсеть раз і мы росшчыталісь, — кажэ мужык, а сам одышоў і стаў посырэдыны дорогі бліжэ люды.

Узяў господар палку, ідэ до мужыка, а той як закрычыт да люды:

— Слухайтэ, людэ! Я до его стравы ны дотыкаўся. Тулькі свою скурку сухую над парою потрымаў. А вун мынэ быньдюгае і грошы трэбуе. Так хай вун тожэ мынэ самого ны зачыпае, а ўдырыт дэсять раз по моюй тыні.

Россмыяліся людэ. Сталі хітрого мужыка хваліты, а господара карчмы высмыялі пырод ўсым народом.

**У вёсцы Дубічы, Гайнаўскага павета запісаў**
**МІКОЛА ПАНФІЛЮК**

Сябра Кокаўца, малады настаўнік, звярнуўся раптам да Налепкі:

— Як вы думаеце, пане капітан, рускія сапраўды пераможуць?

Налепка аж падскочыў. Ён стукнуў кулаком па стале, аж чаркі падскочылі, і горача ўсклікнуў:

— Хай мы тут зараз аслепнем, калі рускія не пераможуць!

Ён паглядзеў на столік, за якім сядзеў гардыст з дзяўчынай, і голасна дадаў:

— Фашысты нам будуць яшчэ боты чысціць.

Пачуліся апладысменты, якія, нібы тое віно, разліліся па кафэ.

Налепка падышоў да гардыста, крыкнуў:

— Прэч адсюль!

Калі гардыст, перакінуўшы праз плячо паліто, знік за дзвярыма, Налепка шчоўкнуў пальцамі і звярнуўся да дырыжора:

— А цяпер — рускую!

На другі дзень Налепку арыштавалі. Сядзеў у арышце дзесяць гадзін, пакуль з міністэрства паведамілі, каб праз тры дні быў на фронце, або — вайсковы трыбунал.

*

— Вярнуся, мама, жывы. Вярнуся. — Ён яшчэ раз абняў маці і паўтарыў: — Абавязкова вярнуся.

Моцна сціскаючы яе цвёрдую мазолістую руку, Налепка прашаптаў:

84

— Сцеражыце той чамадан, мама!

Ён ускочыў на вазок, і калі кабылка рушыла з месца, павярнуўся і памахаў рукой:

— Да пабачэння!

Маці стаяла сярод дарогі, за ёй бацька, браты, суседзі. Яна ўзняла руку і, дрыжучы ўсім сваім целам, замахала ўслед сыну. Пасля рука яе абвісла, панікла галава пад грубай хусткай. Раняючы слёзы, яна прашаптала:

— З Богам, любы мой Янка.

Але сын яе ўжо не чуў. Маленькая, згорбленая, сумная, яна пазірала ўслед. Трывога сціскала яе сэрца. Дарма, што ўчора ён запэўняў яе, што нарадзіўся пад шчаслівай зоркай. Жартаваў, што куля яго не бярэ. Нямецкая, казаў, яго не знойдзе, а з партызанскай ён даўно пасябраваў... Маці плакала, прыгаворваючы, што хлопцы на вайне, нібы туман на вадзе.

Налепкаў позірк блукаў па полі, напоеным расталым снегам, па мокрым чарназёме, чорным, нібы бездань на рацэ. Налепка азірнуўся. За доўгім радам мураваных дамоў чырванеў чарапічны дах Налепкавага дамка. Перад ім стаялі людзі. Маці стаяла побач з братам Ежы, прынікшы галавой да яго пляча.

— Нібы туман на вадзе, — прашаптаў Налепка, і перад яго вачыма замільгалі беларускія хаткі.

85

Убачыўшы паштовую скрынку, ён успомніў пра пісьмы, якія атрымаў учора. Першае пісьмо было ад яго былых вучняў са Ступавы. Яны даведаліся, што ён прыехаў дамоў, і напісалі яму.

Другое пісьмо было ад Ганы. Яна піша, што ўвесь час думае пра яго і хоча наведаць. Налепка напісаў ёй усяго некалькі радкоў.

«Зразумей, маё жыццё вісіць на валаску. Апрача гэтага, у нас зусім розныя характары. Ты гэта ведаеш вельмі добра. Я не хачу быць несумленным у адносінах да цябе: маё сэрца ўжо не належыць табе».

Хай будзе ўсё ясна. Лепш горкая праўда, чым салодкая мана.

Калі Налепка сышоў на станцыі, да яго падбег Кокавец і пазнаёміў з хударлявым саракагадовым чалавекам.

Незнаёмец моцна паціснуў яго руку і ціха сказаў:

— Шкада, што не сустрэўся з вамі раней. Мы ўжо даўно хацелі ўбачыцца з вамі.

Кокавец падышоў бліжэй да Налепкі.

— Гэта таварыш Рогач, — сказаў ён і азірнуўся. — З камітэта партыі.

— У нас ёсць звесткі з міністэрства народнай абароны. — пачаў паціху Рогач. — Не хвалюйцеся наконт Попраду. Афіцэры робяць усё, каб пра гэ-

(Працяг на стар. 7)

86

 

# У БЕЛАВЕЖЫ МНОГА СНЕГУ...

Белавежа... Ахутана зімовым спакоем і снежнай беллю. Такая прыгожая і слаўная! Ї ўсебаковая яе слава расце. Бо вось Белавежская грамада першая ў Гайнаўскім павеце датэрмінова (ужо ў лістападзе) выканала абавязковыя пастаўкі за 1961 год. Грунтовы падатак выкананы ў 148% (на план 187 000 злотых выканана 275 800 зл.). Перадавіком тут была вуліца Стачок у Белавежы. Грамадскі фонд на план 75 000 зл. выканана 115 567 зл. — 140,8%. Першымі былі ў гэтым пушчанская вёска Буды, Падаляны і Застава.

Вельмі цешыць справа фонду будовы школ 1000-годдзя. Гэты фонд менавіта ў Белавежскай грамадзе быў ужо на пачатку снежня выкананы ў 101,8% (план 20 800 зл — выкананне 21 164 зл.). Агульны ваяводскі працэнтавы паказчык за 11 месяцаў раўняецца 77,2%.

— Якім спосабам асягнулі так добрыя вынікі ў гэтым? — пытаю.

— Праз школы, рабілі выкрэсы, вывешвалі ў памяшканні ГРН прозвішчы людзей, якія залягалі. У Будах, напрыклад, справа скочыла ўперад, калі ў ліпені быў зменены солтыс. Новы солтыс Буд называецца Юзэф Баяр і яго ў значнай меры заслуга, што Буды датэрмінова выканалі ўсе належнасці і асабліва дабравольныя складчыны на Фонд школ 1000-годдзя ў 100%.

— А мо' вас яшчэ цікавіць пытанне грамадскіх чынаў у нашай грамадзе? — пытае мяне старшыня ГРН Белавежа **Мікалай Седун**. Ї не чакаючы, інфармуе: — на 960.000 выпрацавалі іх у мінулым годзе (дакладна 960 100 зл). Пры дарожных чынах выпрацавана найбольш — 925 800 зл. На асаблівую пахвалу тут заслугоўваюць Застава з яе працавітым і ініцыятыўным солтысам **Уладзімірам Гваем** і Падаляны — з **Міхалам Хілецкім**. Хочацца назваць некаторыя працы выкананыя часткова або цалкам грамадскім чынам: будова крамы ў Тэраміскох, пасаджэнне 150 дрэвак пры дарогах (нават Пушча не скардзіцца на збытак дрэў), выкананне супрацьпажарнага басейна, будова лазні на Заставе паверхнасцю 11x9 м. з 10 душамі і 4 ваннамі.

Даведваюся яшчэ, штс будова гэтай лазні была пачата ўжо даўно, але добра закончыць яе памог год 1961. Гэта яшчэ адзін плюс у гонар 1961 года і... новага праўлення ГРН у Белавежы, новага старшыні ГРН. Бо ўсё, што я вышэй напісала — добрыя перадавыя вынікі ў працы — сведчыць аб добрай арганізацыі працы ГРН у Белавежы, аб добрым яе кіраўніцтве.



**Мікалай Седун**

✲

Марозная раніца... За акном Пушча, пакрытая тоўстым белым дыванам. На вокнах матаровага поезда дзіўныя казачныя ўзоры Дзеда Мароза.

Тав. Мікалай Седун едзе ў Гайнаўку на нейкую нараду, не дапытваюся якую. Пытаю аб іншым:

— Якія вы маеце абавязкі акрамя працы ў ГРН?

— Член Павятовага камітэта ПАРП, член Грамадскага камітэта, член Прэзідыум ВЗГС, старшыня рады надзорчай ПЗГС.

— Не зайздрошчу... А дзеці ў вас...

— Ёсць. Учора вярнуўся ў 11 гадзін, сын чакаў яшчэ мяне, бо задачка па фізіцы яму не выходзіла.

— Значыць яшчэ адна пасада...?

Усмешка.

— Мне хочацца яшчэ запытаць, які ваш любімы занятак у вольныя хвіліны, так сказаць вашае гоббы?

— Хачу выявіць, як паўстала Белавежа. Цікава аб гэтым расказваюць старыя людзі. Я гаварыў з адным 75-гадовым дзядулем. Ён помніць, як у Белавежы было...

Гэта толькі мае тры кропкі. Тав. Седун сказаў мне, **што** было паводле слоў 75-гадовага дзядулі. Але я пачакаю, пакуль тав. Седун у свае вольныя хвіліны збярэ багацейшы матэрыял аб узнікненні Белавежы. Тады мы іх запішам, і чытач даведаецца, што было ў Белавежы 60 год таму.

✲

Тав. Мікалай Седун — сын Белавежскай пушчы. У ёй нарадзіўся, гадаваўся, працаваў і далей працуе. Ї добра працуе. А для нас гэта яшчэ адзін доказ абвяргаючы папулярную прымаўку: «ніхто ў сваім народзе не прарок» і пацвярджаючы новы варыянт іншай: «чужое знайце і сваё хваліце».

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

# ПАРТЫЙНАЯ ВУЧОБА СТАЕЦЦА ЎСЁ БОЛЬШ ПАПУЛЯРНАЙ

Яшчэ тры гады таму назад на Сакольшчыне было ўсяго толькі 40 курсаў партыйнай вучобы, якія закончыла 500 удзельнікаў, членаў партыі і беспартыйных актывістаў. Сёлета на Сакольшчыне дзейнічае 54 курсы партыйнай вучобы, на якіх вучыцца звыш 1500 слухачоў. Сярод іх звыш 300 беспартыйных актывістаў. Як выказвае практыка, большасць беспартыйных удзельнікаў партыйнай вучобы стаецца актыўнымі кандыдатамі ў члены партыі.

Адным з найбольш актыўнейшых курсаў партыйнай вучобы на Сакольшчыне — гэта курс у Крынках. Выкладчыкам партвучобы з'яўляецца тут Эдуард Надзея. Лекцыі, якія ён чытае, вельмі цікавыя і жывыя. Рыхтуючыся да даклада таварыш Надзея апрацоўвае падрабязна канспект на даную тэму, а потым, у час даклада, яшчэ больш яго развівае, папаўняючы графічнымі выкрэсамі і дадзенымі. Пасля даклада таварыша Надзеі, як звычай, нявязваецца вельмі ажыўленая дыскусія сярод удзельнікаў партвучобы. Такія формы адукацыі садзейнічаюць палітычнаму развіццю ўдзельнікаў, іх сведамасці і маралі.

* ✲ *

Штораз большую папулярнасць здабывае партыйная вучоба і на Гайнаўшчыне. Сёлета дзейнічае тут 61 курсаў партыйнай вучобы, на якіх звыш 1400 слухачоў. У самай Гайнаўцы арганізавана 21 такіх курсаў.

Адным з найбольш актыўных курсаў партыйнай вучобы ў Гайнаўцы — гэта курс пры беларускім агульнаадукацыйным ліцэі. Выкладчыкам гэтага курса з'яўляецца настаўнік па гісторыі — Язэп Куляс. Даклады яго выклікаюць заўсёды жывую дыскусію. А курс карыстаецца папулярнасцю нават сярод беспартыйных.

Адным з лепшых курсаў на Гайнаўшчыне — курс у Тынявічах Вялікіх, дзе выкладчыкам з'яўляецца настаўнік мясцовай школы — Васіль Пучко. Настаўнікі наогул у Гайнаўскім павеце вельмі актыўна ўдзельнічаюць у партыйнай вучобе. Большасць выкладчыкаў партыйнай адукацыі Гайнаўшчыны — гэта настаўнікі.

**(вб)**

# Агніска студэнтаў ГАЙНАЎШЧЫНЫ

27 снежня ў Гайнаўцы ў «Гурніку» адбылася сустрэча ўлад павета са студэнтамі Гайнаўшчыны, якія вучацца ў вышэйшых навучальных установах у розных гарадах Польшчы. Прысутнічала каля 100 асоб на 154 студэнты зарэгістраваных да 1961 года. У 1961 г. на вышэйшыя ўстановы паступіла каля 40 асоб, і сараз разам вучыцца прыблізна 200 асоб. Прадстаўнік ППРН запазнаў прысутных студэнтаў з развіццём Гайнаўкі і павета ў плане 5-летнім, аб пабудове новых прадпрыемстваў: як аб фабрыцы мэблі, аб фанернай фабрыцы, прадпрыемстве пераапрацоўкі гароднiны і фруктаў, аграмамоўках у павеце, аб развіцці пунктаў аховы здароўя і турыстыкі, а асабліва ў Белавежскую пушчу. Штогод 60 000 турыстаў з Польшчы і з-за граніцы наведваюць Гайнаўскі павет.

Промысел Гайнаўскага павета дае 170 мільёнаў даходу штогод. Гайнаўскі павет знаходзіцца на 7 месцы ў ваяводстве па колькасці студэнтаў, бо што 303 грамадзянін павета вучыцца на вышэйшых установах. Таму павінны ганарыцца нашыя студэнты і трэба падняць павет яшчэ на вышэйшы ўзровень, а дзеля гэтага студэнты пасля сканчэння вучобы павінны вярнуцца працаваць на Гайнаўшчыну. Ї таму прадпрыемствы і рада нарадовая павета далі 31 стыпендыю, з таго 20 выкарыстана, а рэшта знаходзіцца ў рэзерве і чакае ахвотнікаў.

Пасля шырокай дыскусіі было пастаноўлена сарганізаваць рэгіянальнае агніска студэнтаў Гайнаўшчыны і ўключыцца ў культурна - асветную працу ў час зімовых і летніх канікул. У Праўленне агніска выбрана наступных студэнтаў: Андрэя Тамашука — старастай, Янку Зіневіча, Мікалая Еўдасюка — намеснікам старшыні; Юрку Калыйку, Анатоля Панько, Людмілу Купрыяновіч, Эдварда Грыгалец, Уладзіміра Купталя, Юрку Стэцкага і Людмілу Дзевятоўскую — членамі праўлення. Ад шчырага сэрца жадаем праўленню і ўсяму агніску добрай працы.

**Васіль Дзун**
Гайнаўка

# АБ ШКОЛЕ Ў АЛЬХОЎЦЫ

Да 1941 года красаваўся вялікі, драўляны будынак пачатковай школы ў Альхоўцы, які стаяў на ўскраіне самай вёскі. Але ў час вайны гітлераўцы спалілі нашу школу.

Пасля вайны жыхары Альхоўкі ізноў падумалі аб новай школе, у якой маглі б вучыцца іхнія дзеці. Тым разам запланавалі пабудаваць школу мураваную. У 1949 годзе пачаліся першыя працы пры будове новай школы. Перш за ўсё пачалася закладка фундамента і праз некаторы час была яна ўжо закончана. Сяляне навазілі цэглы. Чакалі толькі на майстраў, але яны чамусьці не з'яўляліся. А з цэглы, якая была прызначана на будову школы, будаваліся сялянскія печы не толькі ў Альхоўцы, але і ў многіх навакольных вёсках. Час ішоў, а альхоўскія дзеці вучыліся ў дзвюх цесных, сялянскіх хатах. Мінула ўжо восем год ад закладкі фундамента, калі нарэшце ўлады падумалі аб альхоўскай школе. Ї таму пад канец 1957 года з'явіліся майстры, і школа пачала расці ўгору. Будова цягнулася да 1959 года. Урэшце наступіла шчаслівая хвіліна 25.Ї.1959 года, калі альхоўскія дзеці перайшлі вучыцца ў новую школу. Цяжкі быў пачатак кіраўніка школы Эдуарда Ліпінскага, але малады, настойлівы чалавек пачаў пераадольваць усе перашкоды. Ї сёння альхоўская школа амаль нічым не розніцца ад іншых. Бо падумаць толькі, якія вялікія змены адбыліся ў жыцці школы. Існуе тут куток ашчаднасці. Вучні складаюць па некалькі злотых у СКО і ўжо некаторыя з іх маюць звыш 100 злотых. За ашчадныя грошы думаюць зрабіць экскурсію ў Кракаў. Вялікай папулярнасцю карыстаецца тут таксама крамік, у якім вучні купляюць розныя вучнёўскія прылады. Школа мае сваю бібліятэку, якою кіруе настаўніца Марыя Ліпінская. Бібліятэка налічвае каля 2 тысяч кніг. Адным словам, справы альхоўскай школы стаяць добра.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

# ГРЫЦАЎ ЛЁС

Вёска Макаўка ў Гайнаўскім павеце адносіцца да адной з самых перадавых. Існуе там сельскагаспадарчы кааператыў, які даволі добра развіваецца. Сяляне гэтай вёскі некааператыўшчыкі жывуць таксама нядрэнна. Цяжка жывецца толькі Андрэю Грыцу. Хата яго мае многа прызначэнняў. У ёй стаяць коні, каровы, свінні і авечкі. Калі адчыніш дзверы, і спаткаўшыся з жывёлай, можаш не здагадацца, што наступныя дзверы вядуць у яго хату. У ёй няма ні стала, ні крэсла. Спіць гаспадар у пячы. Сцеле туды салому і так спіць. Ды трэба адзначыць, што гэта здольны каваль, а ў мінулым нядрэнны музыкант. Ї цяжка сабе ўявіць, што так мог апусціцца чалавек.

# НА ПРЫКЛАДЗЕ ГАЙНАЎШЧЫНЫ

(Працяг са стар. 1)

«Первёснэк». Таму сяляне перад усім і патрабуюць менавіта гэтыя сарты. Тым часам насенная цэнтраля рэкамендавала сельгасаддзелу ў Гайнаўцы саджанцы «Дары», якія сяляне ўвогуле не хацелі прымаць. Такое становішча насеннай цэнтралі лічыць трэба як найбольш не нармальным і ў будучыні падобныя выпадкі не могуць паўтарыцца.

План аднаўлення сеўнага матэрыялу прадбачвае таксама суседскі абмен насеннем. У Гайнаўскім павеце вясной мінулага года суседскі абмен абмежаваўся толькі да аўса. Планавалася, што хлебаробы выменяць паміж сабою каля 1000 цэнтнераў аўса. На практыцы аказалася, што абмянялі не цэлых 500 цэнтнераў. У суседскім абмене ўдзельнічалі ўсе спулдзельні прадукцыйныя і толькі яны прыкладна вывязаліся са сваіх абавязкаў. Вінаваты тут перш за ўсё аграномы і працаўнікі мясцовых ГРН-аў, якія не змаглі спраўна правясці гэтай акцыі.



 



## ЛЯ БЕРАГОЎ НІГЕРА

Там, дзе шырока раскінуўшыся коціць свае мутныя воды вялікая афрыканская рака Нігер, ляжыць адна з больших дзяржаў Афрыкі — Нігерыя (Паверхнасць 878447 квадратных кіламетраў, сталіца Лагос).

Трыццаць пяць мільёнаў чалавек, якія гавораць на многіх мовах і дыялектах насяляюць гэту краіну. Багатая і шчодрая нігерыйская зямля. Ураджайныя палі і густыя трапічныя лясы; зялёныя нізіны рэк і абшырныя пашы; волава, вугаль, золата, вольфрам, нафта, серабро, жалеза, радыёактыўныя мінералы — усё тут ёсць, каб працвітала краіна.

Але яе багацці да нядаўна належалі англійскім каланізатарам і таму яны не прыносілі краіне шчасця.

Каланізатары доўга гаспадарылі ў Нігерыі і штучна тармазілі яе развіццё. Асабліва адсталая Паўночная Нігерыя. На 19 мільёнаў чалавек пражываючых у Паўночнай Нігерыі ў час эксплуатацыі каланізатараў было толькі дзве сярэднія школы.

**На здымку: нігерыйская жанчына ідзе ў горад.**

## УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

■ Транссібірская электрычная чыгуначная магістраль Масква — Іркуцк — буйнейшая на свеце. Праходзіць яна па двум кантынентам. Яе працяжнасць 5337 кіламетраў. Яна перавышае даўжыню ўсіх электрыфікаваных чыгуначных дарог ЗША, якія складаюць суму 3943 кіламетры.

■ Вядомы савецкі біёлаг Б. Л. Астураў адкрыў спосаб рэгулявання полу шоўкапрада. Незаплодненыя яйкі паддае ён адпаведна высокай тэмпературы і з яек атрымоўвае пазней альбо самічкі альбо самчыкі. Практычнае значэнне гэтага метада вельмі вялікае, таму што самчыкі шоўкапрада даюць больш на 25—30 працэнтаў кокана.

Ёсць думка, што гэтым спосабам можна будзе рэгуляваць пол у рыб.




## ОДА

### СУКЕНКІ



## РЭКОРД

Своеасаблівы рэкорд пабіў амерыканскі мільянер, 67-гадовы Том Манвіль. Нядаўна ён ажаніўся адзінаццаты раз. Хутка пасля гэтага, хвароба прыкавала яго да ложка. Сваёй новай жонцы, былой афіцыянтцы, паабяцаў ён тое, чаго нікому не абяцаў: «Ты будзеш па мне... удавою». Адзінаццатая пані Манвіль гаворыць, што яна не думае аб яго 80 мільёнах долараў, але тут адыгрываюць ролю толькі пачуцці. Гэтак сама гаварыла Манвілю дагэтуляшніх дзесяць жонак.

## НАВІНЫ ТЭХНІКІ

**Калектыў аднаго з заводаў Урала выпрадукаваў агромны экскаватар. Ёмкасць яго каўша — 25 кубаметраў, даўжыня стралы — 100 метраў. Гэты стальны волат вядзе работы на адным з марганцавых руднікоў Украіны.**



## ПАРАДЫ БАБУЛЯМ

Колькі радасці прыносіць дзецям зіма! Малыя катаюцца на санках, гуляюць у снежкі, выбягаюць з лапаткамі расчышчаць замеценыя за ноч дарожкі, лепяць снежных баб з чорнымі вугольчыкамі замест вачэй. Ды ці мала ў іх іншых цікавых гульняў! Ружавеюць ад лёгкага марозіку тварыкі, чуецца вясёлы смех.

Але іншы раз можна наглядаць такі малюнак. Стаіць малы і не можа зварухнуцца з месца. На яго начэплена столькі адзення, што ён сам падобны на снежны камяк. Дзе ўжо тут пабегаеш, пагуляеш. І стаіць ён гадзіну, а то і больш, з сумам паглядаючы на забавы сваіх аднагодак.

Маці, і асабліва бабулі, здаецца, што дзіцяці холадна, і яны імкнуцца захутаць яго ў розныя шалікі, хусткі, ватнікі. Таму хочацца даць некалькі парад, як апранаць дзяцей у зімовы час.

Дзіцячае адзенне добрае тады, калі яно зручнае, не перашкаджае рухам і адначасова вабіць вока. Для захутанага дзіцяці прагулка робіцца цяжкай, сумнай, нецікавай. А калі малое, апранутае такім чынам, пачне бегаць, яно можа ўспацець і прастудзіцца.

Дзіця трэба апранаць так, каб прагулка спрыяла ўмацаванню яго здароўя. Вось чаму важна, каб зімовае паліто было цёплае, але не цяжкае. Рукавы такія, каб дзіця магло свабодна трымаць у руках лапатку, вяроўку ад саначак і г.д. Рукавічкі могуць быць прымацаваны да доўгай тасьмы. Лепей, калі паліто пашыта з лёгкай шарсцяной тканіны, а не з сукна. Паліто для дзяцей да 2—3 год на шарсцяной ваце або ваціне павінна важыць не больш чым 750 — 800 грамаў. Пад паліто трэба надзяваць світар і рейтузы.

А як наконт абутку? Лепш за ўсё — такія валёнкі, у якіх можна хадзіць без галёш. Іх трэба падрэзаць на 3—4 сантыметры ніжэй каленак, каб яны не паціралі і не перашкаджалі рухам. Калі ў дзіцяці няма валёнак, можна абысціся бацінкамі з цёплымі боцікамі і шарсцянымі шкарпэткамі.

На галаву надзяюць шапку - вушанку або вязаную шапачку, а пад яе — хустачку. Пад каўнер паліто завязваюць шалік.

Для здароўя вельмі важна, каб у зімовы час дзіця знаходзілася на паветры не менш як чатыры гадзіны.

## КОЛЬКІ ВАЖЫЦЬ СНЕГ?

Сняжынка вельмі лёгкая, амаль зусім нічога не важыць. Таму яна так доўга кружыцца перад тым, пакуль упадзе на зямлю. Сняжынка важыць усяго толькі адну дзесяцітысячную долю грама. Гэта значыць, трэба сабраць дзесяць тысяч сняжынак, каб удалося на вазе зважыць нашу дзесяціграшовую манету.



Сняжынка лёгкая таму, што хоць яна ўтворана з крышталікаў лёду, аднак яна ў 9/10 складаецца з паветра. Чаму ж тады пад цяжарам снегу так абцяжэлі дрэвы паказаныя на гэтай фатаграфіі? Відавочна, што хоць лёгкая кожная сняжынка, а скапленне іх дастаткова важыць.

Свежавыпаўшы снег пушысты і лёгкі. Кубічны метр яго важыць 85 кілаграмаў. Такі самы аб'ём згушчанага вясенняга снегу важыць ужо 550 кілаграмаў. А які цяжар таго снежнага покрыва, які скопліваецца год за годам у гарах? Вечныя снягі ўтвараюць масівы, якія скрываюць абрысы горных хрыбтоў. Снег утварае навісаючыя карнізы і абрывы ў дзесяткі метраў вышыні. Ён не ўтрымоўвае ўласнага цяжару. Снег альбо паволі спаўзае ўніз на абшырныя леднікі, альбо раптоўна зрываецца грознай лавінай.

На кожны квадратны метр дна буйнейшага ледніка Федчэнка на Паміры, даходзячага да 500 метраў таўшчыні, ціcне 450 тон, але гэта вельмі мала ў параўнанні з вагой тых ледніковых шчытоў, якія пакрывалі ў мінулым паўночную палавіну Еўропы і Паўночнай Амерыкі, а зараз скрываюць пад сабою Грэнландыю і Антарктыду. Таўшчыня ледніковага шчыта Еўропы даходзіла да двух кіламетраў. Скандынавія, якая «апусцілася» пад яго цяжарам, за 10.000 год «усплыла», у выніку раставання гэтага покрыва на 250 метраў і яшчэ і зараз працягвае падымацца штогод на два сантыметры.

Вось цяпер уяўляеце чапэўна вагу снегу. Вельмі ж мала важыць сняжынка, аднак вага запасаў снегу праз цэлыя стагоддзі робіцца такая вялікая, што пад яе цяжарам прагінаецца зямная кара цэлых мацерыкоў.

